**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 27 (848) 7 ліпеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by






**Ідзём на свята! Фота на памяць.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*
Працяг тэмы на стар. 4.

## У Беларусі ўдакладнены ўмовы прадастаўлення льготных крэдытаў на рамонт жылля ў малых гарадах

**У Беларусі ўдакладнены ўмовы прадастаўлення льготных крэдытаў на рамонт жылля ў населеных пунктах з колькасцю да 20 тыс. чалавек. Адпаведнае рашэнне змешчана ў пастанове Савета Міністраў нумар 517 ад 30 чэрвеня 2016 года, паведамілі БелТА ў прэс-службе беларускага ўрада.**

Дакумент прыняты ў мэтах выканання ўказа Прэзідэнта Беларусі ад 15 красавіка 2016 года нумар 141.

Пастановай замацавана права ўдзельнікаў долевай уласнасці на атрыманне льготнага крэдыту на капітальны рамонт і рэканструкцыю жылых памяшканняў, а таксама будаўніцтва інжынерных сетак і ўзвядзенне гаспадарчых пабудоў.

Крэдытныя дагаворы на прадастаўленне такіх крэдытаў заключаюцца ў межах сродкаў, што накіроўваюцца на мэты крэдытавання на адпаведны год з улікам прынятых Беларусбанкам абавязацельстваў па заключаных раней крэдытных дагаворах.

Удакладнены тэрмін прадастаўлення райвыканкамамі Беларусбанку спісаў грамадзян на атрыманне льготных крэдытаў – не пазней за 15 дзён з дня іх зацвярджэння (замест месячнага тэрміну раней).

Таксама пастанова прадугледжвае прадастаўленне ў складзе пераліку дакументаў пры ўключэнні ў спісы на атрыманне льготных крэдытаў звестак аб наяўнасці ў не заключыўшых шлюб і пражываючых сумесна з грамадзянінам і (або) яго жонкай (мужам) непрацаздольных дзяцей ва ўзросце старэйшым за 23 гады, якія з'яўляюцца інвалідамі I або II групы, маюць патрэбу ў пастаянным дадатковым доглядзе або пабочнай дапамозе; ваўласнасці жылых памяшканняў (агульнай плошчы жылых памяшканняў, што прыпадае на долю ў праве агульнай уласнасці на жылыя памяшканні), размешчаных у тым ліку ў іншых населеных пунктах Беларусі.

Для ажыццяўлення кантролю за мэтавым выкарыстаннем крэдытных рэсурсаў устаноўлена, што чарговая выдача часткі крэдыту ў лік адкрытай крэдытнай лініі праводзіцца на аснове заявы крэдытаатрымальніка толькі пасля прадастаўлення ім справаздачы аб мэтавым выкарыстанні раней атрыманых сродкаў.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

***БелТА.***

## У Беларусі плануецца забараніць продаж алкаголю ў парках

У Беларусі плануецца абмежаваць рэалізацыю алкагольных напояў у культурна-паркавых зонах. Пра гэта паведаміў журналістам галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя Іван Конаразаў, перадае карэспандэнт БелТА.

*"Падпраграма "Папярэджанне і пераадоленне п'янства і алкагалізму" на 2016-2020 гады ўключае 53 мерапрыемствы. Сярод іх асветніцкія і заканадаўчыя ініцыятывы, меры па абмежаванні даступнасці алкаголю. Адзін з прыкладаў - абмежаванне рэалізацыі алкаголю і тытуню ў паркава-культурных зонах"*, – сказаў Іван Конаразаў.

***БелТА.***



ISSN 2077-8023



У нас змяніўся нумар тэлефона, цяпер – 8 (02156) 5-52-94

### Глыбоцкі раён

## Вопыт, варты пераймання

■ Кастусь Александровіч

**Толькі тыя краіны, якія хутчэй асвояць навейшыя тэхналогіі і перадавы вопыт чалавецтва, маюць шанцы на росквіт і дабрабыт у эпоху наступіўшай глабалізацыі.**

Істотныя перамены чакаюць і айчынную жыллёва-камунальную гаспадарку, пра што было аб'яўлена нядаўна ўдзельнікам выязной калегіі Мінжылкамунага Беларусі на пленарным пасяджэнні ў Глыбокім. Праца калегіі пачалася спачатку ў суседніх Паставах, дзе спецыялісты з усіх куткоў краіны паглядзелі, як тут вядзецца капрамонт жылфонда, мадэрнізіруюцца цеплакоткі і як працуе пераведзеная на мясцовыя віды паліва кацельня. Удзельнікі выязной калегіі затым на Глыбоччыне наведалі спачатку палігон цвёрдых бытавых адыходаў у Сароках, куды за год для сарціроўкі і ўтылізацыі 8 спецмашын толькі летась даставілі каля 11 тысяч тон другасных рэсурсаў, частку якіх можна паўторна выкарыстаць. Экалагічныя праблемы ўдалося вырашыць дзякуючы супрацоўніцтву з еўрапейскімі партнёрамі, амаль 550 тон сыравіны пайшло на паўторны выраб пластыка, шкла, паперы. Вельмі прыемныя ўражанні ва ўдзельнікаў калегіі пакінула знаёмства з абноўленай у райцэнтры лазняй на 100 месц з басейнам, кафэ і більярднай залай. З апераджэннем графіку ў Глыбокім вядзецца будаўніцтва сучасных ачышчальных збудаванняў і агульнай сістэмы каналізацыі. На гэтым аб'екце коштам 10 млн. долараў з дапамогай міжнароднага Банка рэканструкцыі і развіцця будуць асвоены самыя сучасныя і энергаэфектыўныя тэхналогіі, абслугоўваць складаную гаспадарку будзе толькі адзін падрыхтаваны дыспетчар з дапамогай аўтаматыкі, сеткі насосных станцыі і калектараў. Падчас пасяджэння ў райцэнтры былі разгледжаны таксама актуальныя пытанні далейшай дзейнасці гэтай важнай для людзей галіны жыццязабеспячэння.

### Пастаўскі раён

## Падлячыцца побач з домам

■ Чэслаў Якубовіч.

**Ва ўсім свеце актуальнымі з'яўляюцца задачы павышэння якасці і даступнасці медыцынскіх паслуг.**

У Беларусі сёлета увядуць электронныя рэцэпты, а ў далейшым і дыспансерызацыю насельніцтва з дапамогай магчымасцей Інтэрнэту, пра што днямі адзначалася ў Паставах, дзе прайшоў рэспубліканскі навукова-практычны семінар медработнікаў. Мясцовая райбальніца месцам для яго правядзення была выбрана невыпадкова, бо яшчэ ў 2001 годзе тут пачалі адпрацоўваць першымі ў краіне новыя падыходы па аказанні амбулаторна-паліклінічнай дапамогі насельніцтву. Па прынцыпе ўрача агульнай практыкі яшчэ ў 1998 годзе стала працаваць Навасёлкаўскаяамбулаторыя, да яе па галандскім вопыце далучыліся пазней сельскія ўчастковыя бальніцы ў Дунілавічах і Камаях. Гэты перадавы вопыт неўзабаве быў распаўсюджаны і на сам райцэнтр пасля абагульнення існуючай практыкі ў гарадах-пабрацімах Італіі і Літвы. У трох буйнейшых мікрараёнах Пастаў неўзабаве адкрыліся офісы ўрачоў агульнай практыкі з працэдурнымі, перавязачнымі, абавязкова з кабінетамі фізіятэрапіі. У адным з іх дзейнічае і зубапратэзны кабінет, адпала неабходнасць пацыентам гараджанам ездзіць за меддапамогай у райпаліклініку. За гэты час у раёне падрыхтавалі 25 урачоў агульнай практыкі, іх работа арганізуецца па мадэлях брыгаднай, групавой і адзіночнай практыкі. На Пастаўшчыне медыкі асвоілі вайбер ЭКГ, праводзяць кансультацыі з хворымі па скайпе. Такі падыход даказаў сваю эфектыўнасць і яго будуць развіваць па ўсёй Беларусі.

### Аршанскі раён

## Прыйшлі на дапамогу

■ Станіслаў Раманчук.

**З надыходам сапраўднага лета рэдка які дзень абыходзіцца цяпер ў вобласці без надзвычайных здарэнняў, бо вельмі шмат народу сталі адпачываць на вадаёмах, адправіліся ў лясныя масівы.**

Вось і ў Аршанскім раёне выратавальнікам гараддзела па надзвычайных сітуацыях прыйшлося некалькі разоў прыходзіць на дапамогу людзям у падобных выпадках. Спачатку пасярод ночы на пульт дзяжурнага патэлефанавала з мабільнага тэлефона 28-гадовая гараджанка і паскардзілася, што яна заблудзілася ў лясным гушчары. Напярэдадні яна з сяброўкамі адпачывала на прыродзе, выйшла пагуляць па лясной сцяжынцы і назад дарогу згубіла, пайшла зусім у іншы бок, куды было патрэбна. На пошук чалавека былі падключаны і супрацоўнікі міліцыі. Паколькі сувязь з пацярпелай падтрымлівалася, праз гадзіну з нечым пошукаў яе знайшлі ў гушчары на адлегласці 5 км ад бліжэйшай вёскі Чырвоная Харкаўка. Ноч была даволі цёплая, і ў медыцынскай дапамозе патрэбы не было. Услед за гэтым ужо вечарам выратавальнікам МНС паступіў сігнал, што загарэлася адна з кватэр на цэнтральным парспекце Тэкстыльшчыкаў. У момант прыбыцця пажарных чорны дым валіў з вокнаў на другім паверсе. Выратавальнікі эвакуіравалі 10 суседзяў гаспадара кватэры, які на падпітку закурыў і мог бы недарэчна развітацца з жыццём. На шчасце, дапамога паспела своечасова, у спецкамбізонах звяно газадымнай службы вывела пацярпелага на вуліцу. Пасля агляду ўрачамі гора-курыльшчыка адпусцілі дамоў, дзе спатрэбіцца правесці рамонт моцна закопчанага памяшкання і замяніць пашкоджаную маёмасць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 07.07.16 | | | | Пятніца 08.07.16 | | | | Субота 09.07.16 | | | | Нядзеля 10.07.16 | | | | Пан. 11.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +12 | +13 | +14 | +11 | +16 | +17 | +14 | +12 | +15 | +16 | +15 | +13 | +14 | +19 | +17 | +13 | +18 | +20 |
| Ціск | 737 | 737 | 739 | 741 | 743 | 744 | 744 | 744 | 743 | 743 | 741 | 741 | 741 | 742 | 743 | 744 | 745 | 746 | 747 |
| Вецер м/сек | 3 Ю | 3 З | 6 С-З | 4 С-З | 4 З | 7 З | 7 З | 5 Ю-З | 3 З | 5 Ю-З | 2 Ю-З | 2 Ю | 1 С-З | 3 З | 4 С-З | 1 С-З | 2 Ю-З | 2 С-З | 6 С-З |
| Вільготнасць | 86 | 88 | 87 | 81 | 79 | 73 | 70 | 92 | 96 | 86 | 84 | 85 | 96 | 95 | 63 | 73 | 97 | 75 | 60 |

# Аб самым надзёненым

## ПЕРАХОД НА НОВЫЯ ГРОШЫ Ў БЕЛАРУСІ АДБЫВАЕЦЦА НА ФОНЕ ДАЛЕЙШАГА ПАГЛЫБЛЕННЯ ЭКАНАМІЧНЫХ ПРАБЛЕМ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**І вось летась у пачатку лістапада нам аб'явілі аб прадстаячым пераходзе на новую валюту. Для моладзі – гэты крок не ўяўляе асаблівых праблем, а вось людзям старэйшага пакалення прыйдзецца паламаць галаву, каб не памыліцца з разлікамі.**

Сезон масавых летніх водпускаў сёлета ў нашай краіне абяцае быць даволі багатым на розныя рэзанансныя падзеі. Напрыканцы чэрвеня ў беларускай сталіцы прайшоў чарговы V Усебеларускі народны сход, які вельмі ўжо нагадваў ранейшыя партыйныя з'езды. Цэнтрвыбаркам Беларусі зацвердзіў каляндарны план па падрыхтоўцы і правядзенні парламенцкіх выбараў. На кожную са 110 выбарчых акруг нарэзалі ў сярэднім колькасць выбаршчыкаў каля 64 тысяч чалавек. У глыбінцы насельніцтва вымірае (у краіне стала амаль на 100 тысяч выбаршчыкаў меней) і там дэпутата будуць выбіраць жыхары адразу некалькіх раёнаў, а першапачаткова выбіраліся розныя выбарчыя камісіі, пойдзе затым збор подпісаў.

З іншых значных бягучых падзей не засталіся незаўважанымі рашэнні суседняй Расіі забараніць увоз праз Беларусь афрыканскай садавіны і гародніны. Таксама расійскія ўлады вырашылі знізіць нам пастаўкі нафты з 3-га квартала. Як стала вядома, найбольш дынамічна ў нашай краіне развівалася сталічная вобласць і што, характэрна, у Мінску недзяржаўны сектар забяспечыў амаль 70 % грашовых паступленняў у бюджэт. Няцяжка здагадацца, што справы тым часам на многіх дзяржаўных сталічных прадпрыемствах і ў арганізацыях зараз даволі кепскія, там працягваюць скарачаць штаты і растуць страты ў вытворцаў.

На гэтым вось фоне ў сярэдзіне лета беларусы пачнуць атрымоўваць новыя грошы. У першы дзень чарговай, 3-й па ліку маштабнай дэнамінацыі айчынным банкам дазволілі нават 1 ліпеня 2016 года не абслугоўваць кліентаў. Увогуле справа гэта – не такая і простая, бо перапраграмаваць толькі адну касу для прыёму новых беларускіх рублёў і капеек каштавала банкам каля 30 долараў. Цікава, што першапачаткова правесці ў нас дэнамінацыю хацелі з новага года, у студзені 2017 года, аднак беларускі лідар вырашыў правесці яе раней на паўгода, пра што сам прызнаўся.

"Мільянерамі" мы з вамі, дарэчы, былі ўпершыню яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя. Калі хто не забыўся, у далёкім 1999 годзе ў абарачэнні ўжо хадзіла купюра вартасцю 5. 000 000 рублёў. Але тады было вырашана правесці другую па ліку дэнамінацыю і з 2000 года на той самай сіненькай банкноце з выявай мінскага Палаца спорту ўбралі тры нулі і яна стала вартасцю толькі 5 тысяч. Але ж наша нацвалюта асаблівай устойлівасцю не вызначалася, як і беларуская эканоміка, паколькі айчынны рубель за тры апошнія пяцігодкі абясцэніўся фактычна ўжо амаль ў 4 разы.

Прэзідэнт Беларусі яшчэ некалькі гадоў назад шчыра заяўляў, што новыя беларускія грошы ўжо надрукаваныя, яны ляжаць на складзе і чакаюць спрыяльнага моманту для іх увядзення ў абарачэнне. У кіраўніцтве краіны потым неаднаразова падкрэслівалі, што дэнамінацыя пройдзе тады, калі стабілізуецца сітуацыя ў эканоміцы, грашова-крэдытнай сістэме, знізіцца банкаўскія працэнтныя стаўкі. І вось летась у пачатку лістапада нам аб'явілі аб прадстаячым пераходзе на новую валюту. Для моладзі – гэты крок не ўяўляе асаблівых праблем, а вось людзям старэйшага пакалення прыйдзецца паламаць галаву, каб не памыліцца з разлікамі.

Усім зараз варта паклапаціцца і аб адпаведных скураных партмане, каб можна туды складваць і манеты. Народ гэтай падзеі чакаў, асаблівай трывогі і ажыятажу не назіралася, усё ж рыхтаваліся да дэнамінацыі даўно і прывыклі людзі да гэтага непазбежнага кроку, які ў цэлым напярэдадні выбараў дапаможа вырашыць частку эканамічных праблем. А галоўнае, каб у далейшым не было высокай інфляцыі, ад чаго залежыць устойлівасць нацыянальнай валюты. Але цяпер у банкаўскай сістэме Беларусі ёсць і трывожны момант, бо пратэрмінаваных даўгоў прадпрыемстваў па раней узятых крэдытах стала на трэць болей.

Адначасова на нядаўняй рабочай сустрэчы з главамі ўрада і Нацбанка па пытаннях правядзення дэнамінацыі А. Лукашэнка з радасцю паведаміў аб паспяховых выпрабаваннях айчынных сістэм залпавага агню "Паланез". Гэта, зразумела, важкі крок у плане ўмацавання забеспячэння бяспекі і абароны краіны і сведчыць яшчэ аб тым, што сярод беларусаў багата таленавітых людзей у розных сферах, у тым ліку ваенна-прамысловым комплексе.

## Дзень за днём

**Чарговая місія МВФ ацаніла эканамічную палітыку ўлад Беларусі. Перад дэнамінацыяй грашовыя даходы беларусаў знізіліся на 6,9 % у параўнанні з мінулым годам. Праз чвэрць стагоддзя ў беларусаў акрамя рублёў зноў з'явіліся капейкі. Парламент увёў ліміты на спажыванне піццявой вады. У канцы года ў Беларусі могуць павысіцца тарыфы на паслугі ЖКГ. У выніку ўрагана ў Беларусі без свету засталіся 1046 населеных пунктаў, былі павалены тысячы дрэў, пашкоджаны 20 аўтамабіляў. Беларускія баскетбалісткі прабіліся зноў на летнюю Алімпіяду.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Расійскі тэлеканал RT выпадкова паказаў сюжэт з касетнымі бомбамі на ваенных расійскіх самалётах, прымяненне якіх пры бамбардзіроўках Крэмль дагэтуль адмаўляў.

**Германія.** Урад краіны пацвердзіў пры неабходнасці ўзмацніць санкцыі супраць Расіі з-за негатоўнасці Крамля выконваць мінскія пагадненні і паважаць суверэнітэт Украіны.

**ЗША.** Сенат краіны, які кантралююць рэспубліканцы, зноў адхіліў шэраг паправак у законы па ўзмацненні кантролю за продажам зброі і канфіскацыі яе ў амерыканцаў.

**Венесуэла.** Сітуацыя ў краіне стала яшчэ больш крытычнай, за паўмесяца ўспыхнула больш 50 харчовых бунтаў, масавых нападзенняў на магазіны, ідуць бойкі за ежу.

**Арменія.** Прэзідэнт С. Саргсян дамовіўся з калегамі з Расіі і Азербайджана павялічыць колькасць назіральнікаў АБСЕ па нармалізацыі абстаноўкі ў Нагорным Карабаху.

**Грэцыя.** Прадстаўнікі 10 з 14 праваслаўных цэркваў удзельнічалі ва Усеправаслаўным саборы ўпершыню за тысячу гадоў, Руская царква з паствай 100 млн. яго праігнаравала.

**Швейцарыя.** Услед за ніжняй верхняя палата парламента – Савет кантонаў вырашыў адклікаць заяўку краіны аб уступленні ў Еўрасаюз, пададзеную вясной 1992 года.

**ЗША.** Супрацоўнік МВФ П. Долман папярэдзіў Беларусь аб магчымым дэфіцыце пенсійнага фонду пасля 2022 года, нягледзячы на павышэнне пенсійнага ўзросту.

**Літва.** З-за абвастрэння геапалітычнай абстаноўкі ў краіне вярнулі абавязковы прызыў на тэрміновую ваенную службу, адменены ў 2008 годзе, вырасла мінімалка да 380 еўра.

**Індыя.** На прадстаячай у лістападзе ў Дэлі канферэнцыі па барацьбе супраць тытуню Сусветная арганізацыя аховы здароўя плануе дабіцца забароны тонкіх цыгарэт.

**Італія.** На мясцовых выбарах упершыню мэрам сталіцы Рыма стала жанчына, 37-гадовая прадстаўніца папулісцкага апазіцыйнага руху "5 зорак" Вірджынія Раджы.

**Бразілія.** Улады штата Рыа-дэ-Жанейра за 49 дзён да пачатку Алімпіяды аб'явілі аб катастрафічным фінансавым становішчы, яшчэ летась пайшлі затрымкі пенсій, заробкаў.

**Германія.** Пасля нападзення 6 рускіх у Кёльне на трох іспанскіх турыстаў затрыманым хуліганам пагражае і за супраціўленне нямецкай паліцыі зняволенне ад 3-х да 10 гадоў.

**Расія.** У Карэліі і ў Маскве аб'явілі жалобу пасля трагічнай гібелі 15 дзяцей падчас турпаходу на лодках па адным з карэльскіх азёр, калі паднялася там бура.

**Швейцарыя.** Услед за IAAF Міжнародны алімпійскі камітэт адхіліў удзел расійскіх лёгкаатлетаў, трэнераў і суддзяў не толькі на Алімпіядзе, але і на міжнародных стартах.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Старобін.** Дзяржаўны банк развіцця Кітая выдзеліў "Беларусбанку" крэдыт у 1,4 млрд. USD на будаўніцтва тут камбіната калійных угнаенняў па выпуску да 2 мільёнаў тон штогод.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Злотнікаў назваў палітычным рашэнне Крамля абмежаваць у 1,5 разы пастаўкі нафты ў Беларусь, мы не падтрымалі Пуціна ў пытаннях Крыма і іншых.

**Гомель.** А. Лукашэнка пацвердзіў, што ў краіне захаваецца кантроль за цэнаўтварэннем, даручыў за 2 гады завяршыць будаўніцтва новай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы.

**Баранавічы.** Мясцовы 558 авіяцыйны рамонтны завод заключыў кантракт з Казахстанам на рамонт і мадэрнізацыю казахскіх баявых самалётаў Су-25 савецкай вытворчасці.

**Жлобін.** Сярод буйнейшых ААТ краіны мясцовы БМЗ стаў самым стратным (2,624 трлн. рублёў), пагроза беспрацоўя паўстала перад многімі з 11 тысяч яго работнікаў.

**Барысаў.** Эканамічны суд Мінскай вобласці прызнаў банкрутам мясцовую швейную фабрыку "Лінж", падобны лёс напаткаў сёлета швейныя фабрыкі "Серж" і "Веснянка".

**Мінск.** Часы росквіту былых флагманаў сацыялістычнай індустрыі, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, скончыліся назаўжды, але дэградацыя зборачнага цэха СССР прадоўжыцца.

**Брэст.** У першы дзень водпуску трагічна загінуў у ДТЗ 23-гадовы салдат тэрміновай службы, якога падвозіў у Кобрын на сваёй іншамарцы яго 21-гадовы саслужывец.

**Мінск.** У гэтай пяцігодцы, як папярэдзіў кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леанід Заіка, краіна ўступіла не тое, што ў крызіс, а ў фазу дэпрэсіўнага качання на адным месцы.

**Гомель.** Падчас візіту ў абласны цэнтр А. Лукашэнку чакалі і на гіганце "Гомсельмашы", рыхтаваліся там да сустрэчы, аднак на праблемнае прадпрыемства ён не заехаў.

**Мазыр.** Да 5 гадоў турмы пагражае 53-гадовай выкладчыцы мясцовага дзяржуніверсітэта за спробу атрымання хабару ад студэнтаў-завочнікаў за станоўчыя ацэнкі на экзаменах.

**Смаргонь.** Міліцыя затрымала 21-гадовага беспрацоўнага мінчаніна, які спачатку ноччу хацеў у вёсцы Баруны абакрасці бацькупрадпрымальніка, але потым забіў яго сякерай.

**Жабінка.** Яшчэ адзін 19-гадовы вясковы хлопец скончыў жыццё самагубствам на чыгунцы, сеў позна вечарам на рэльсы перад праходзячым цягніком Баранавічы-Брэст.

**Жлобін.** На ўзвышшы паблізу Дняпра біскуп Пінскі А. Дзем'янка ўрачыста асвяціў другі па ліку ў райцэнтры каталіцкі касцёл, пабудаваны ў стылі готыкі з вышынёй шпіля 36 м.

**Брэст.** Галоўны трэнер і 10 ігракоў ХК "Брэст" звярнуліся ў суд, каб ім выплацілі даўгі па зарплаце, кіраўніцтва вобласці вырашыла ліквідаваць гэту хакейную каманду экстралігі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (паз вестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі плануецца ўкараніць сістэму страхавання па беспрацоўі


■ БелаПАН

**У перспектыве ў Беларусі плануецца ўкараніць сістэму страхавання па беспрацоўі. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску 28 чэрвеня паведаміў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Такун.**

«Мы над гэтым працуем, праводзіцца навукова-даследчая работа, і ў 2017 годзе будзе распрацаваны і ўнесены ва ўрад нарматыўна-прававы акт аб неабходнасці ўкаранення сістэмы страхавання па беспрацоўі», — сказаў чыноўнік.

Паводле яго слоў, яшчэ рана гаварыць аб канкрэтных механізмах, хто будзе выплачваць узносы і як будзе фарміравацца страхавы фонд. «Агульная ідэя такая: калі чалавек працаваў і плаціў страхавыя ўзносы, то пры страце працы па незалежных ад яго прычынах будзе мець права на атрыманне дапамогі па беспрацоўі, якое па сусветных стандартах забяспечвала б пакрыццё страчанага заробку ў памеры да 70%», — паведаміў начальнік упраўлення.

Такун таксама пацвердзіў інфармацыю, што для асобных катэгорый беспрацоўных плануецца павысіць дапамогу да памеру 100% бюджэту пражытачнага мінімуму. Ужо рыхтуецца адпаведны праект нарматыўна-прававога акта. «Мы ўжо не аднойчы заяўлялі, што планы па павелічэнні памеру дапамогі па беспрацоўі ёсць. Намі ўжо падрыхтаваны і праходзіць апошняе ўзгадненне праект нарматыўна-прававога акта аб павышэнні дапамогі па беспрацоўі для беспрацоўных, якія страцілі працу ў выніку вызвалення, скарачэння колькасці штата работнікаў, ліквідацыі прадпрыемства, да 100% бюджэту пражытачнага мінімуму (на сёння — 1.699.430 рублёў у сярэднім на душу насельніцтва)», — адзначыў чыноўнік.

Паводле дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, сярэдні памер дапамогі на аднаго беспрацоўнага ў маі 2016 года склаў 265,6 тыс. рублёў, або 15,4% ад бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, на канец мая 2016 года склала 50,5 тыс. чалавек, што на 12,9% больш, чым на канец мая 2015 года, і на 6,1% менш, чым на канец красавіка 2016 года.

Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец мая 2016 года склаў 1,1% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец мая 2015 года — 1%). «Што тычыцца прагнозу па ўзроўні зарэгістраванага беспрацоўя і перавышэння колькасці звольненых работнікаў над прынятымі (як паведамлялася, за студзень—май — на 70 тыс.). Такая тэндэнцыя (перавышэння) захоўваецца апошнія некалькі гадоў, але скарачаецца і колькасць працоўных рэсурсаў. Значнага росту ўзроўню зарэгістраванага беспрацоўя мы не чакаем. Паводле прагнозу — не больш за 2%», — сказаў спецыяліст. Пры гэтым ён паведаміў, што назіраецца зніжэнне колькасці зваротаў у службу занятасці і павелічэнне попыту на работнікаў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Непрыемным сюрпрызам для ААТ "Нафтан" стала скарачэнне паставак 1,125 млн. тон нафты з Расіі, столькі ў III-м квартале недаатрымае і Мазырскі НПЗ.

**Віцебск.** Надуманая справа сенатара А. Шарэйкі, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, і яе падтрымка калектывам птушкафабрыкі засведчылі недавер грамадства да правасуддзя.

**Дуброўна.** На свяце Дня горада глава раёна А. Лукашоў падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з мэрыяй горада Вулканешты Гагаўзскай аўтаноміі Рэспублікі Малдова.

**Глыбокае.** На базе мясцовага і Пастаўскага райкамунгасаў прайшла выязная калегія Мінжылкамунгаса Беларусі па пытаннях далейшага развіцця гэтай галіны ў рэгіёнах.

**Віцебск.** Пасля рэканструкцыі коштам 56,9 млрд. рублёў адкрылі тэрапеўтычны сучасны лячэбны корпус абласнога дзіцячага медцэнтра на 145 ложкаў для юных пацыентаў.

**Браслаў.** Праверка выявіла ў філіяле "Браслаўрыба" Глыбоцкага МКК уцечкі пару на цеплапунцке, іншыя парушэнні рацыянальнага выкарыстання паліва і энергарэсурсаў.

**Паставы.** Загадчыцу Парыжскай бальніцы сястрынскага догляду Марыну Брэскую прызналі лепшым урачом агульнай практыкі Беларусі за 2015 год, узнагародзілі ў Мінску.

**Ушачы.** За паўторнае кіраванне транспартам у нецвярозым стане суд пазбавіў яшчэ двух жыхароў райцэнтра ва ўзросце 28 і 40 гадоў іншамарак, пакараў буйнымі штрафамі.

**Віцебск.** Глава вобласці майстар спорту М. Шарстнёў на чэмпіянаце свету па гіравым трыятлоне за мінуту падняў гіру вагой 32 кг 53 разы, дапамог зборнай РБ перамагчы.

**Наваполацк.** Услед за ўзгараннем і выкідам вясной этылену на заводзе "Палімір" днём адбыўся буйны пажар, вышыня гарэння факелу ў цэху № 104 дасягнула 4-х метраў.

**Лепель.** На перадпалётным даглядзе ў Нацыянальным аэрапорце Мінск транспартная міліцыя выявіла 26-гадовага ўхіліста ад службы ў арміі з райцэнтра, уручыла павестку.

**Віцебск.** Малады 25-гадовы госць на вяселлі ў абласным цэнтры скокнуў з маста ў раку Заходняя Дзвіна і патануў у 10 метрах ад апоры, дзе яго труп знайшлі вадалазы Асвод.

**Міёры.** На працягу 10 дзён на базе Дзісенскай СШ праходзілі ваенна-палявыя зборы 97 хлопцаў-старшакласнікаў школ раёна з наведваннем Полацкага пагранатрада.

**Докшыцы.** Вечарам ураганны парыў ветру ў мястэчку Ваўкалаты паваліў дрэва на праязджаўшы легкавы аўтамабіль, кіроўцу дасталі з аўто работнікі МНС, ён не пацярпеў.

**Віцебск.** У выніку бойкі маладых хлопцаў з-за танца з дзяўчынай у кафэ "Тэатральнае" ў выхадны дзень загінуў адзін з яе ўдзельнікаў ад атрыманай гематомы чэрапа.

*Служба інфармацыі "ВГ" ( па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун,
*тэкст і фота.*

# Глыбокае: Я люблю Беларусь!

***На свята Дня вызвалення Глыбокага і Беларусі народ выйшаў не толькі ў вышыванках, але і ў сукенках-маляванках з сюжэтамі карцін (маляваных дываноў) Язэпа Драздовіча.***

На адлегласці тыдня, напэўна, ужо не актуальна апісваць храналогію чарговага святкавання Дня вызвалення Глыбокага і Беларусі ад нямецкіх акупантаў. А вось адметнасць Свята на фоне іншых райцэнтраў краіны, я думаю, можна.

Рэакцыя на фоты аўтара, якія ўжо былі размешчаныя на некаторых сайтах, вельмі дадатная. У Глыбокім умеюць ладзіць святы і фэсты, усё арыгінальна, запамінальна! Ёсць што паказаць і паглядзець! З гэтага і пачынаецца патрыятызм! Такая агульная адзнака наведвальнікаў сайтаў з розных куткоў Беларусі.

Яшчэ нейкіх гадоў пяць таму масавыя гарадскія мерапрыемствы ў Глыбокім засмучалі не толькі аўтара гэтых радкоў і шматлікіх глыбачан, але і гасцей горада. Гэта часта адлюстроўвалася ў гнеўных каментарах на розных інтэрнэт-сайтах. Ну, якая ў Глыбокім Беларусь!? Хутчэй, заштатны расейскі гарадок, дзе толькі адзінкавая беларуская песня прагучыць са сцэны, і то фальклёрная! Нібыта, самі беларусы прыехалі ў госці да ўсходняга "брата".

Усё змянілася ў верасні 2012 года, калі ў горадзе быў праведзены Дзень беларускага пісьменства і друку. Заняты рубеж Глыбокае ўжо не пакідала. Цяпер пераважная большасць гарадскіх мерапрыемстваў, як тое – традыцыйны сезонны кірмаш, Масленіца, Вішнёвы фэст – праводзіцца на роднай мове. Не выключэннем было і свята Дня вызвалення Глыбокага і Беларусі ад нямецкай акупацыі. Усё афіцыйнае мерапрыемства – ад мітынгу ў скверы Перамогі і ўскладання вянкоў да помніка палеглым савецкім жаўнерам за вызваленне горада, масавага шэсця працоўных калектываў горада і святочны канцэрт на галоўнай сцэне Глыбокага – цягам чатырох гадзінаў, праходзіла на беларускай мове. Не хачу сказаць, што на ўрачыстым канцэрце не прагучала ніводнай песні на рускай мове… Прагучалі! І нямала! Але, якi іх быў кантэнт (напаўненне)! "Беларусь моя!", "Я люблю Беларусь!"… Каб такое адбывалася гадоў дзесяць таму, мо і не з'явілася б тады столькі шмат людзей, якія вельмі актыўна дамагаліся – збіралі подпісы – аб пераводзе ўсіх устаноў адукацыі на рускую мову навучання? Цяпер, напэўна, было б інакш...




**Самыя пекныя дзяўчаты – у Глыбокім!**

Сёння шмат хто адзначае, што Глыбокае на Беларусі з'яўляецца ледзьве не самым лепшым прыкладам папулярызацыі роднай мовы, культуры, гісторыі. А ў шматлікіх білбордах на вуліцах і будынках горада і пры дарогах раёна – прасоўваецца мясцовы глыбоцкі патрыятызм!

Трэба адзначыць, што на ўрачыстае шэсце народ выйшаў не толькі ў вышыванках, але і ў сукенках-маляванках з сюжэтамі карцін (маляваных дываноў) Язэпа Драздовіча. Больш таго, удзельнікі шэсця неслі і сучасныя дываны-маляванкі. Традыцыі Язэпа Драздовіча і Фёдара Сухавілы і сёння працягваюцца!

Традыцыйнае мастацтва маляваных дываноў Віцебскага Паазер'я – колішняй Дзісненшчыны (цяперашнія Глыбоцкі, Шаркоўскі і часткова Мёрскі і Докшыцкі раёны) – занесеная ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў нашай краіны, якія створаны пры фінансавай і кансультатыўнай падтрымцы ЮНЭСКА.

"Апакаліпсіса", як у Мінску, у Глыбокім не было! Невялікая хмарка, завісла на хвілін 10, асвяжыўшы рэдкімі кроплямі паветра, і зышла. Прысутныя з вялікай цікаўнасцю працягвалі слухаць і глядзець цудоўны святочны канцэрт у выкананні мясцовых самадзейных артыстаў.

Можна сказаць, што свята Дня вызвалення Глыбокага і Беларусі ад нямецкіх акупантаў з'яўляецца адметным і прыцягальным не толькі для жыхароў горада, але і для ўраджэнцаў Глыбоччыны, гасцей горада. Свята, на якое хочацца прыязджаць нават здалёку, бо ўсё тут настолькі мілае і роднае! І ў гэтым кантэксце вельмі паказальны "III Сход роду Сабалеўскіх", на які Сабалеўскія з'ехаліся ў Глыбокае з розных краёў: з Віцебска, Мінска, Масквы...!



**На свята прыйшлі не толькі ў вышыванках, а і ў сукенках-маляванках, на якіх заўважныя матывы глыбоцкіх дываноў-маляванак 1930-40-х гг работы Язэпа Драздовіча і Фёдара Сухавілы.**




**Сучасныя дываны-маляванкі Глыбоччыны. Традыцыі Язэпа Драздовіча і Фёдара Сухавілы працягваюцца і сёння.**



**Танцавальная кампазіцыя "Глыбоцкі рушнік". Ветэранаў вайны праводзяць на святочны канцэрт.**




**Выглядае на тое, Глыбокае для Сабалеўскіх – сакральнае месца! На масавым шэсці была заўважная група людзей (каля 15 чалавек) з надпісам на футболках – "III Сход роду Сабалеўскіх", якія прыехалі сюды з розных гарадоў Беларусі і Расіі. Яны ішлі самастойнай калонай.**

# Смецце на Варганскай гары давялося прыбіраць з дапамогай альпіністаў

**Праект ЕС/ПРААН “Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні” праходзіць на тэрыторыі 11 сельскіх саветаў Докшыцкага раёна. Ажыццяўляе яго МЭГА “Прырода і мы”. Фінансаванне ЕС / ПРААН.**

■ **Алег Лысёнак**, *старшыня праўлення міжнароднай экалагічнай грамадскай арганізацыі "Прырода і мы"*

Упершыню грошы вырашаюць экалагічныя праблемы сельскіх тэрыторый, удзельнічаюць у стварэнні зон адпачынку, іх абсталяванні, стварэнні ландшафтных паркаў, музеяў, уборцы звалак, папярэджанні сцёкаў сельскагаспадарчых ферм, пасадцы алей і г.д.



Дырэктар Порплішчанскай школы Аксана Палачаніна са школьнікамі на экасцяжынцы, што на Варганскай гары.

Упершыню праект практычны. Міжнародная экалагічная грамадская арганізацыя (МЭГА) “Прырода і мы” не праводзіць бессэнсоўныя канферэнцыі, трэнінгі, банкеты, замежныя паездкі па абмене досведам, няма зарплаты чыноўнікам.

На дадзены момант прайшло тры месяцы рэалізацыі праекта. Нешта атрымалася, нешта не вельмі. Адразу хочам адзначыць, такога мы не прадбачылі. Адбылося тое, што адбылося. Мы радыя і шчаслівыя, што ў сельскай мясцовасці Докшыцкага раёна пражываюць такія працавітыя, добрыя, клапатлівыя людзі, якія з вялікім энтузіязмам успрынялі нашу ініцыятыву.

### Што было зроблена

1. Жыхары вёсак аб’яднаны ў супольнасці на тэрыторыі кожнага з 11 сельскіх выканкамаў.

2. З ліку мясцовых жыхароў створана 11 грамадскіх экалагічных пастоў. З ліку вучняў мясцовых школ створаны 11 школьных экалагічных атрадаў.

3. У вынiку абследавання тэрыторыі, правядзення маніторынгу рэк і азёр выяўлены экалагічныя і іншыя праблемы раёна.

4. МЭГА “Прырода і мы” сумесна з мясцовымі жыхарамі і ўладамі, школай, касцёлам, царквой знойдзены рашэнні для выпраўлення выяўленых праблем:



Асвячэнне мастка мясцовым каталіцкім святаром.

■ **Ваўкалацкі сельскі Савет.** Сіламі мясцовага насельніцтва праведзена ўборка тэрыторый ад бытавога смецця ўздоўж рэчкі Патачанка і возера Станіслаўскага. Створана экалагічная сцежка ад школы, уздоўж ракі Патачанка да возера Станіслаўскага.

Абсталявана альтанка для правядзення заняткаў са школьнікамі і для адпачынку мясцовага насельніцтва. Створаны і ўсталяваны жалезны масток з чатырма ліхтарамі. Па беразе рэчкі Патачанка насупраць касцёла пасаджана алея маньчжурскіх арэхаў з 21 высадкай – падарунак ад МЭГА “Прырода і мы”.

Хацелася б адзначыць вялікую актыўнасць старшыні сельскага выканкама Антаніны Бабарыка, а таксама дырэктара мясцовай школы Пятра Кацейка, настаўніка біялогіі Вольгі Кушаль – кіраўніка школьнага экалагічнага атрада.

■ **Бярозкаўскі сельскі Савет.** Сіламі мясцовай супольнасці выраблена абследаванне і маніторынг вытока ракі Вілія. Выток ракі Вілія знаходзіцца ў добрым стане. Праведзена ўборка тэрыторый ад бытавога смецця. Ачышчаны і пашыраны вадаём у цэнтры вёскі Бярозкі. Па ініцыятыве МЭГА “Прырода і мы” ствараецца экалагічны музей двух рэк, якія ўпадаюць у Балтыйскае і Чорнае мора, музей ракі Вілія і ракі Поня.

У стварэнні музея будзе аказана дапамога Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнымі бібліятэкамі Польшчы і Літвы. Цікава, што на дадзенай тэрыторыі пражываюць такія добрыя і спагадлівыя людзі. Магчыма гэта ўплыў двух вытокаў рэк.

Хочацца адзначыць працу старшыні сельскага выканкама Валянціны Кургей, настаўніцы біялогіі Аксаны Сініца і Вольгі Зорыч.

■ **Порплішчынскі сельскі Савет.** Праведзена ўборка велізарных звалак ў кар’ерах Варганскай гары, а для ўборкі схілаў былі прыцягнутыя альпіністы. У вёсцы Порплішча ля вадаёма ўсталяваныя дзве лаўкі, уздоўж берага пасаджана алея вербаў.

У дэндрапарку школы ўстаноўлена альтанка для правядзення заняткаў са школьнікамі. Працяг экасцяжынкі, якая ідзе па дэндрапарку школы, будзе працягнута па Варганскай гары да возера Сэрвач. У далейшым экасцяжынка ператворыцца ў турыстычны маршрут.

Створаны стол з лаўкамі для Варганскай гары, а таксама стэнд і паказальнікі экасцяжынкі па Варганскай гары. На беразе возера створаны і будуць усталяваныя дзве распранальні – мужчынская і жаночая, стол і лаўкі для адпачынку насельніцтва. У Порплішчынскай школе будзе створаны музей прыроды – даўняя мара дырэктара школы Аксаны Палачанінай.

Хацелася б таксама адзначыць энтузіязм кіраўніка экалагічнага атрада і кіраўніка экалагічнага паста, незвычайнага чалавека Ганну Маркевіч, якая проста закаханая ў прыроду.

***Пра далейшую рэалізацыю праекта мы паведамім пазней.***



Смецце на схілах Варганскай гары да ўборкі альпіністамі.



Абмеркаванне плана работы з кіраўніком паста Ганнай Маркевіч ва ўсталяванай альтанцы для заняткаў са школьнікамі.

# Злоўжыванне алкаголем забірае больш за палову сямейнага бюджэту

**Алкагалізм з'яўляецца адной з самых вострых медыка-сацыяльных праблем сучаснасці, паколькі яго наступствы не толькі наносяць значны ўрон здароўю чалавека, залежнага ад алкаголю, але і кладуцца цяжкім цяжарам на ўсё грамадства.**

■ **Ю. Самусева**, *загадчык аддзела гігіены Глыбоцкага РЦГЭ*

Зулікам маштабаў распаўсюджвання і ступені негатыўнага ўплыву на здароўе людзей, сямейныя адносіны, культуру, мараль, эканоміку п'янства і алкагалізм ўяўляюць сабой сур'ёзную пагрозу нацыянальнай бяспецы і стабільнасці развіцця грамадства.

Ужыванне алкаголю спрыяе развіццю больш чым 200 хвароб, траўмаў, інваліднасці і ранняй смяротнасці больш, чым які-небудзь іншы фактар рызыкі ва ўсіх краінах, у тым ліку і ў Рэспубліцы Беларусь.

П'янства і алкагалізм негатыўна адбіваюцца на выкананні правапарадку ў грамадстве і абвастраюць крымінагенную абстаноўку, адбіваюцца на прадукцыйнасці працы, працоўнай дысцыпліне. Зніжаецца сярэдняя працягласць жыцця чалавека, павышаецца смяротнасць.

Злоўжыванне алкаголем выклікае мноства сацыяльных праблем, звязаных з ростам гвалту, павышаным дарожным траўматызмам і іншых, якія адбіваюцца на людзях, што не ўжываюць алкаголь, асабліва з блізкага атачэння тых, хто злоўжывае ім.

Сярэдняя працягласць жыцця ў тых, хто п'е, на 15-20 гадоў карацейшая, чым у непітушчых. Амаль кожны чацвёрты алкаголік (23,6%) у сваім жыцці спрабаваў хаця б адну спробу да самагубства. З п'янствам і алкагалізмам звязана да 50% злачыннасці. Злоўжыванне алкаголем хаця б адным з сужэнцаў выносіць ад 40 да 70% бюджэту сям'і. З гэтай з'явай звязана каля 50% усіх разводаў і пераважная частка выпадкаў сацыяльнага сіроцтва.



На жаль, у масавай свядомасці і бытавой культуры насельніцтва, асабліва моладзі, сфармаваўся ўстойлівы сацыяльна-псіхалагічны стэрэатып, згодна з якім спажыванне алкагольных напояў разглядаецца як натуральны сучасны стандарт паводзін. Ужыванне спіртных напояў ператварылася ў адзін з самых распаўсюджаных відаў "адпачынку", калектыўнага і індывідуальнага баўлення часу, спосаб зняцця нагрузак, стрэсаў, атрымання задавальнення, усвядомленага і неўсвядомленага адурманвання, сыходу ад рэчаіснасці і разбурэння будучыні.

## Узровень пажарнай бяспекі праверaных суб'ектаў

**У чэрвені інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў.**

За выяўленыя парушэнні правілаў пажарнай бяспекі на гэтых суб'ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі, юрыдычныя і службовыя асобы.

Так пры праверцы **філіяла "Каралі" ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат"** высветлілася, што: не ўсе будынкі і збудаванні прадпрыемства забяспечаны спраўнымі першаснымі сродкамі пажаратушэння згодна нормаў Палажэння; драўляныя будаўнічыя канструкцыі паддахавых памяшканняў не апрацаваны вогнеахоўным складам; будынкі і збудаванні не забяспечаны спраўнай ахоўвай ад маланак; адміністрацыйны будынак не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; пажарныя вадаёмы не адпавядаюць патрабаванням правіл пажарнай бяспекі; дрэваапрацоўчыя станкі не абсталяваны прыладамі для механічнага выдалення абрэзкаў, валокнаў і пылу; у жывёлагадоўчых будынках з прывязным утрыманнем жывёлы адсутнічае групавая прывязь жывёлы, што не забяспечвае хуткага вызвалення жывёл з памяшканняў пры пажары; на аб'ектах прадпрыемства маюцца парушэнні правілаў мантажу і эксплуатацыі электраабсталявання.

**Глыбоцкае камунальнае ўнітарнае меліярацыйнае прадпрыемства "Глыбоцкая ПМК меліяводгас"** – у будынках інтэрнатаў дапускаецца эксплуатацыя размеркавальных каробак без ахоўных накрывак; злучэнні жылаў зварачных правадоў выкананы пры дапамозе незаізаляванай скруткі; аўтаматычная пажарная сігналізацыя адміністрацыйнага будынка знаходзіцца ў непрацаздольным стане.

**Прыватнае гандлёвае ўнітарнае прадпрыемства "Глыбокае Атлант-Сэрвіс"** – па выніках праверкі ўручана даведка, г.зн. суб'ект цалкам адпавядае патрабаванням нормаў і правілаў пажарнай бяспекі.

### МНС інфармуе
**на 05.07.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 368;
Гібель людзей – 44, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

## Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч: Будслаўскі фэст стаў нацыянальным святам

**Штогадовыя ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Будслаўскай, якія традыцыйна адбываюцца ў першыя два дні ліпеня, сабралі сёлета ў Будславе тысячы вернікаў літаральна з усёй краіны.**

"Для нашага народу гэта крыніца сапраўднай свежай вады для душы. А цела жыве толькі тады, калі жывая душа!", – кажа адна з верніц.

Іншы наведнік фэсту адзначае: "Мне як верніку і гэткае пабачыць – гэта… Як моладзь гаворыць, супер!"

Пры гэтым больш за 2,5 тыс. пілігрымаў з розных куткоў Беларусі прыйшлі на традыцыйны Будслаўскі фэст пешкі.

А вось як ацэньвае падзею Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч: "Гэтае свята нацыянальным святам стала! Гэта не толькі свята Каталіцкага касцёлу: пагледзіце, колькі праваслаўных кіёскаў тут таксама ёсць і таксама рэлігійную літаратуру прадаюць не толькі каталікі, але і нашыя браты праваслаўныя. Сёння мы таксама спаткаліся з мітрапалітам Паўлам. Свята стала вельмі папулярным, і сапраўды гэтых людзей больш і больш".

Адмысловым госцем урачыстасцяў сёлета стаўся пасланнік Папы Рымскага кардынал Крыстафэр Шэнборн.




**Глыбоцкія пілігрымы прыйшлі ў Будслаў.**

"Я ўпэўнены, што маё перабыванне тут у час Будслаўскіх урачыстасцяў будзе маім найпрыгажэйшым перажываннем, якое я буду мець у Беларусі", – дзяліцца ўражаннямі кардынал.

Між тым сёлетні Будслаўскі фэст улады ўсё-ткі азмрочылі, затрымаўшы ў мястэчку паэта Славаміра Адамовіча, які прыехаў адведаць дзедаву магілу. Пасля таго, як ён адмовіўся даць свае рэчы на дагляд асобам у цывільным, яго схапілі міліцыянты і даставілі ў псіхіятрычны шпіталь "Навінкі". Пасля фэсту паэта адпусцілі.

*Паводле belsat.eu*

## На Ушаччыне развіталіся з Валянцінай Быкавай



Валянціна Быкава памёрла ў Віцебскім шпіталі 4 чэрвеня, не дажыўшы 3 дні да свайго дзевяностагадовага юбілею. Пахавалі яе 5 чэрвеня на могілках у вёсцы Ваўчо, што каля Ушачаў.

Пахаванне было арганізаванае сацыяльнай службай Ушацкага райвыканкама.

***Зміцер Лупач***

